# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

10 красавіка 2020 года №15 (1302) 18+




З Вялікаднем!

# Вясновыя канікулы заканчваюцца, а эпідэмія – не

## Што думаюць пра сітуацыю бацькі і настаўніца з Маладзечаншчыны




старонка 2

Фота Настассі УТКІНАЙ.

## З аптэк знік парацэтамол

старонка 3



ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/





## Самазабойствы, свецкія хронікі і смяротны прыгавор на Вілейшчыне на пачатку мінулага стагоддзя

старонка 17

## Як маладзечанскі футбол перамагаў у 1963 годзе

старонкі 20-21

## Ёсць гарады, дзе людзей нараджаецца больш, чым памірае

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

За 2019 год натуральныя страты Беларусі склалі 32 868 чалавек. Гэта розніца паміж тымі, хто нарадзіўся (каля 88 тысяч), і тымі, хто памёр (каля 120 тысяч).

Часам гэтыя лічбы карэктуюцца міграцыяй. І тады насельніцтва ўсё адно павялічваецца.

У Беларусі яшчэ застаюцца 33 гарады, у якіх нараджаецца больш беларусаў, чым памірае. Сярод іх тры гарады з нашага рэгіёна. Гэта:

• Астравец (прырост – 102);
• Смаргонь (прырост – 20);
• Ашмяны (прырост – 10).

**Паводле Белстата.**

## Дактары і міліцыянеры правяраюць людзей у самаізаляцыі

АШМЯНЫ

4 красавіка ў Ашмянах правяралі людзей, якія знаходзяцца на самаізаляцыі.

Прадстаўнікі тэрапеўтычнага аддзялення раённай бальніцы, цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, раённага аддзела ўнутраных спраў правяралі тых, хто нядаўна вярнуўся з краін з дрэннай эпідэміялагічнай сітуацыяй праз каранавірус. Правяралі таксама і тых, хто з'яўляюцца кантактам другога ўзроўню і павінны выконваць двухтыднёвы рэжым самаізаляцыі.

У Ашмянскім раёне на раніцу 4 красавіка ў спісе было 37 чалавек. Гэта лічба можа мяняцца, бо адны здымаюцца з уліку, іншыя на яго становяцца.

4 красавіка дактары і міліцыянеры правяралі 15 чалавек без папярэджання. Прадстаўнікі мабільнай групы цікавіліся самаадчуваннем чалавека, наяўнасцю тэмпературы і ці добрасумленна ён выконвае рэжым самаізаляцыі.

**Паводле Ашмянскага райвыканкама.**

## У ЦРБ адмянілі асабісты прыём грамадзян

ВІЛЕЙКА

Гэта зрабілі, каб не рызыкаваць і не спрыяць распаўсюджанню каранавіруса, паведамляюць у Вілейскай ЦРБ.

Асабісты прыём грамадзян замянілі на правядзенне прамых тэлефонных ліній. «Прамыя лініі» будуць ладзіць у той час, які прызначаны для прыёму. Яны пазначаныя на сайце ўстановы.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Залессі пачала працаваць аптэка

СМАРГОНЬ

Пра тое, што ў Залессі запрацавала аптэка, якая некалькі год стаяла зачыненая, нам паведамілі мясцовыя жыхары.

Па словах вяскоўцаў, адной з прычын, па якой аптэку зачынілі, была адсутнасць спецыяліста. Цяпер тут працуе малады ветлівы фармацэўт.

Асаблівым попытам у наведнікаў аптэкі апошнім часам карыстаюцца маскі і антысептык.

– Мы вельмі рады, што аптэку адчынілі, – кажуць мясцовыя жыхары. Цяпер не трэба ездзіць за лекамі ў Смаргонь. Гэта вельмі важна для дыябетыкаў, сардэчнікаў, для людзей з хваробамі вачэй, якім трэба кроплі рэгулярна капаць.

Працуе аптэка па панядзелках, серадах і пятніцах.

Таксама ў Залескай амбулаторыі працуе лабараторыя. У канцы мінулага года яе збіраліся зачыніць. Аднак мясцовыя жыхары выступілі супраць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У рэгіёне пачалі шыць маскі

АШМЯНЫ

З-за дэфіцыту медыцынскіх масак, які ўзнік у сувязі з распаўсюджаннем каранавіруснай інфекцыі, УП «Ашмяны-быт» адкрыла вытворчасць сродкаў індывідуальнай абароны.

Дырэктар прадпрыемства **Ала Апанасік** расказала, што ў дзень яны могуць пашыць каля тысячы бытавых павязак. Для таго, каб стварыць аптымальны варыянт павязкі, швачкі распрацавалі некалькі варыянтаў з розных тканін, у выніку выбралі самы зручны – з марлі і бязі. Пры шыцці павязак выконваюцца правілы бяспекі – швачкі працуюць у пальчатках, а пасля праводзяць тэрмічную апрацоўку гатовага вырабу.

Заказы на пашыў распісаныя на некалькі тыдняў наперад. У першую чаргу маскі набываюць арганізацыі і прадпрыемствы, якія працуюць непасрэдна з людзьмі. Сярод заказчыкаў – аўтамабільны парк №13, РУП ЖКГ, прадстаўніцтва Белдзяржстраху па Ашмянскім раёне.

Таксама ў швейнай майстэрні можна пашыць павязкі па індывідуальнай замове, але пры ўмове, што вы прыйдзеце са сваім марлевым матэрыялам.

**Паводле osh.by.**




Падчас дадатковага тыдня канікулаў дзеці займаюцца самаадукацыяй.

# Вясновыя канікулы заканчваюцца, а эпідэмія – не

## Што думаюць пра сітуацыю бацькі і настаўніца з Маладзечаншчыны

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлетнія вясновыя канікулы ў школьнікаў рэгіёна працягнулі на тыдзень. Прычына – пандэмія каранавіруснай інфекцыі.**

### Калі б канікулы не працягнулі, многія бацькі пакінулі б дзіця дома па заяве

Аднак яшчэ да таго, як афіцыйна аб'явілі аб працягу канікулаў, бацькам з Маладзечна дазволілі пакідаць дзяцей дома па заяве. Пра гэта нам паведамілі бацькі маладзечанскіх школьнікаў, а інфармацыю пацвердзілі ў сярэдняй школе №5.

– Так, ад 6 красавіка вучня можна пакінуць дома. Бацькі павінны прыйсці ў школу і напісаць заяву, дзе пазначаць, што на гэты час нясуць адказнасць за жыццё і здароўе дзяцей. Пакуль такіх заяў у нас 14, – расказалі нам 3 красавіка.

Распрацавалі ўзор заявы на імя дырэктара школы. У ёй бацькі просяць вызваліць дзіця ад заняткаў у сувязі з тым, што сын ці дачка будуць знаходзіцца дома.

Акрамя таго, у заяве пазначаецца, што матэрыял прапушчаных уроках дзіця абавязанае засвоіць самастойна і што законныя прадстаўнікі нясуць адказнасць за жыццё і здароўе дзіцяці.

### Штодзень каля ста бацькоў звярталіся ў Мінадукацыі

Аднак заявы не спатрэбіліся. 4 красавіка Міністэрства адукацыі паведаміла, што школьныя канікулы працягнуць яшчэ на адзін тыдзень, да 11 красавіка. Заняткі ў чацвертай чвэрці будуць праходзіць ад 13 красавіка да 30 мая. Як адзначалі на сайце, штодзень у Міністэрства паступала каля ста званкоў ад бацькоў, якія прасілі працягнуць канікулы ў сувязі з неспрыяльнай эпідэміялагічнай абстаноўкай.

Падчас падоўжаных канікулаў Мінадукацыі рэкамендавала вучням займацца самаадукацыяй з дапамогай падручнікаў і інтэрнэта.

### Бацькі: добра, што канікулы працягнулі

Мы пагутарылі з бацькамі з Маладзечна і даведаліся, што яны думаюць аб працягу канікулаў.

– Канешне, добра, што канікулы працягнулі, – кажа **Ірына**, дачка якой вучыцца ў сярэдняй школе №1. – А калі б не працягнулі, то я б усё роўна пакінула дома сваё дзіця. Маю права зрабіць гэта па заяве. Ведаю, што так зрабіла б большая палова бацькоў з нашага класа. Не баюся, што дачка слабей засвоіць матэрыял. Цяпер дастаткова розных відэаўрокаў на ютубе. А жыццё і здароўе дзіцяці, напэўна, усім бацькам даражэй, чым выдатныя веды. Толькі вось канікулы заканчваюцца, а пандэмія не. Не ведаю, што рабіць. Відаць, мушу пакінуць дачку дома яшчэ і пасля канікулаў.

**Марыя** – мама траіх дзяцей. Усе займаюцца ў сярэдняй школе №14. Яна таксама лічыць, што працяг канікулаў – гэта добра:

– Відаць, у міністэрстве працуюць людзі з добрым сэрцам, – лічыць Марыя. – Дзеці на канікулах займаліся самастойна – старэйшая вельмі адказна. Сярэдняя выконвала самае неабходнае. Малодшаму сыну дапамагаў бацька.

### Настаўніца: трывожыць тое, што 13 красавіка вучні прыйдуць у школу

– Канікулы працягнулі – гэта добра, – лічыць Ларыса – настаўніца адной са школ Маладзечаншчыны. – Трывожыць, што хутка мы будзем працаваць у вялікіх калектывах, дзе ні маскі, ні пальчаткі, ні дэзсродкі не ўберагуць ад інфекцыі. А эпідэмія толькі набірае хуткасць. Школы стануць актыўнымі распаўсюджвальнікамі каранавіруса. І гэта трывожыць.

Спадарыня Ларыса разумее, што парушаецца звыклы стан жыцця для сямей: дзеці арганізаваныя на ўроках, накормленыя ў школьнай сталовай, імі апякуюцца настаўнікі. Разумее настаўніца і тое, што вучэбны матэрыял дзеці самастойна не засвояць у поўнай меры.

– Але хіба незасвоены матэрыял спыніць жыццё? Варта было б канікулы працягнуць, заняткі перанесці на летні перыяд, а за гэты час падрыхтавацца да дыстанцыйнага навучання, калі сітуацыя не палепшыцца. Узнікне шмат арганізацыйных пытанняў, праблем.

Лічу, што ўсё можна вырашыць. Так, не ўсе вучні змогуць адразу самаарганізавацца і працаваць напоўніцу. Але гэта новы досвед у вучэбным працэсе. І яго трэба асвойваць. І настаўнікам, і вучням, і бацькам.



Тэкст і фота –
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# З аптэк знік парацэтамол

**Ужо каля тыдня, як з аптэк рэгіёна зніклі таблеткі парацэтамолу.**

Яшчэ 4 сакавіка ў аптэках мы ўбачылі аб'явы пра тое, што няма пальчатак, масак і парацэтамолу. У большасці аптэк зніклі не толькі таблеткі, але і сіроп. Па словах аптэкараў, прэпарат быў асабліва запатрабаваны апошнімі днямі.

**– Штодзень шмат людзей пытаецца, стаміліся адказваць. Вось і павесілі аб'яву, – растлумачыла нам фармацэўт у адной з аптэка Маладзечна.**

7 красавіка мы паглядзелі на сайце tabletka.by, ці з'явіўся прэпарат у Маладзечне і ці ёсць ён у іншых гарадах рэгіёна. Сіроп парацэтамолу ёсць у некалькіх гарадскіх і вясковых аптэках.

А вось таблетак у горадзе па-ранейшаму няма. Толькі ў раёне – у Сасновым Бары, Беразінскім і Красным.

У Вілейцы – сіроп у дзвюх гарадскіх і ў трох вясковых. Таблеткі – толькі ў Вілейцы на Талстога і ў аптэцы ў Даўгінаве. На Валожыншчыне – таблеткі ў адной аптэцы на ўвесь горад і ў трох вясковых.

**Дэфіцыту прэпаратаў, у склад якіх уваходзіць парацэтамол, на пачатак тыдня ў аптэках рэгіёна не было.**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Падобныя аб'явы віселі ў многіх аптэках Маладзечна.

Нагадаем, што Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) рэкамендавала не выкарыстоўваць ібупрафен і лекі, што яго замяшчаюць, для самалячэння ад новага каранавіруса, а піць парацэтамол.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота з суполкі vk.com/typical_vileyka.

А гэта фота – у адной з вілейскіх аптэк.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**КАЛЯ 100**

**СТОЛЬКІ ЗВАНКОЎ ШТОДЗЁННА ПАСТУПАЛА Ў МІНАДУКАЦЫІ, КАБ ПРАЦЯГНУЛІ ВЯСНОВЫЯ КАНІКУЛЫ**

ПАВОДЛЕ МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 2.04 | 9.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5973 | **2.5512** |
| Еўра | 2.8478 | **2.7715** |
| Злоты, 10 | 6.2064 | **6.1202** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2869 | **3.3669** |
| Грыўня, 100 | 9.3713 | **9.3549** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 1.04 | 8.04 |
| Еўра | 2.7700/2.8600 | **2.7300/2.8300** |
| Долар ЗША | 2.5700/2.6500 | **2.5400/2.6000** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | 1.04 | 8.04 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,06 | **23,06** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **3,89** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,78 | **7,78** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,10** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,70 | **16,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,95 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,80 | **2,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **5,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,90 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **7,50** |
| Радыс, пучок | 4,90 | **3,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 8,50 | **11,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,30** |
| Вінаград, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,95 | **5,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **4,50** |
| Лімон, 1 кг | 7,90 | **11,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,99 | **2,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Навучэнцы з рэгіёна перамаглі ў адборачным туры кулінарнага шоу

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ

У рэспубліканскім кулінарным фестывалі ўдзельнічалі повары і навучэнцы профільных навучальных устаноў Беларусі.

Ад 2 да 16 сакавіка праходзіла галасаванне за самыя смачныя стравы фестывалю. Па яго выніках адборачны тур прайшлі некалькі ўдзельнікаў з рэгіёна:

у намінацыі «Сучасная беларуская кухня. Суп» – страва «Юшка з пеўня» ад **Антаніны Баяркінай** з Ашмянскага дзяржаўнага аграрна-эканамічнага каледжа.

У намінацыі «Сучасная беларуская кухня. Гарачае» ёсць некалькі страў з рэгіёна:

- сырныя блінкі з грыбамі ад **Тацціяны Біслюк**, майстра вытворчага навучання Смаргонскага дзяржаўнага прафесійнага політэхнічнага ліцэя;
- цыбрыкі, фаршыраваныя грыбамі і цыбуляй, ад **Артура Лявуціна** з Маладзечанскага дзяржкаледжа;
- страва «Судак – каледжа смак» ад **Аляксандры Жук** і **Эльвіры Дзятковіч** з Вілейскага дзяржаўнага каледжа.

**Аддзел інфармацыі.**

## Улады пашырылі спіс тавараў, на якія будуць рэгуляваць цэны

Пашырылі спіс сацыяльна значных тавараў, цэны на якія рэгулююцца Міністэрствам антыманапольнага рэгулявання і гандлю, паведамляе ўрад.

У пералік унеслі кансервы мясныя, кансервы з рыбы, сухое малако, каву, пітную ваду, расфасаваную ў ёмістасці, цвёрдае туалетнае і гаспадарчае мыла, запалкі, гігіенічныя жаночыя пракладкі, падгузнікі, туалетную паперу, сродкі аховы органаў дыхання (маскі, прызначаныя для індывідуальнага прымянення) і дэзінфікуючыя (антыбактэрыяльныя, абеззаражвальныя) сродкі, у тым ліку гелі, спрэі.

**Паводле pravo.by.**

# Дзіцячае свавольства ледзь не прывяло да сур'ёзнага пажару

СМАРГОНЬ

6 красавіка ў 16:43 выратавальнікам паступіла паведамленне пра пажар на тэрыторыі прыватнага дома ў Залессі.

Мясцовы жыхар заўважыў дым і полымя, што выходзіла з-пад канька гаспадарчай забудовы на суседскім падворку. Мужчына выклікаў выратавальнікаў і кінуўся на дапамогу пагарэльцам.

Вяскоўцы самастойна справіліся з узгараннем. Агонь пашкодзіў дах будынка. Хутчэй за ўсё, прычынай стала дзіцячае свавольства з агнём.

Як распавялі самі гаспадары, напярэдадні іх дзеці 13 і 12 гадоў гулялі на ўчастку. Хлапчукі залезлі на гарышча пабудовы, дзе палілі газету, а запалкі кідалі ў кут. У нейкі момант загарэўся ўцяпляльнік на падлозе. Дзеці паспрабавалі самастойна патушыць узгаранне, але не змаглі. Спалохаўшыся, яны выбраліся на вуліцу і, нічога не сказаўшы бацькам, уцяклі.

**Паводле МНС.**

● УВАГА! ВЫШУК

# Маладзечанцы зніклі ў Расіі. Іх шукае міліцыя

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра знікненне двух маладзечанцаў на заробках у Расіі паведамілі ў Маладзечанскім РАУС.**

2 красавіка ў міліцыю звярнулася 66-гадовая жанчына, якая паведаміла пра тое, што знік яе 42-гадовы сын **Яўген Васільевіч Зарубін**.



Па словах маці, мужчына ў верасні 2019 года паехаў на заробкі ў Расію. Як мяркуецца, на будаўнічы аб'ект. Са сваякамі сувязь падтрымліваў праз вайбер. Апошні раз мужчына выйшаў на сувязь 25 сакавіка бягучага года. Пасля чаго праз чатыры дні яго калегі паведамілі маці, што мужчына з'ехаў у Санкт-Пецярбург на маршрутным таксі, каб вярнуцца дадому, паведаміла афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук.**

**Прыкметы:** на выгляд 42 гады, рост каля 196 сантыметраў, моцнага целаскладу, хвалістыя светла-русыя, кароткія валасы, чуб на левы бок, памер абутку 46.

**Асаблівыя прыкметы**: татуіроўкі на перадплечы, на левай галёнцы, на фалангах пальцаў адной з рук.

**Мог быць апрануты** ў чорна-сінюю або чырвона-белую куртку, кофту з кароткімі рукавамі, чорныя спартыўныя штаны, чырвоную кепку з пальмавай кветкай, абуты ў зімовыя красоўкі.

Днём раней **мужчына** заявіў пра знікненне 43-гадовага брата **Сяргея Расціславіча Дразда**.



Па словах заяўніка, мужчына ў кастрычніку мінулага года паехаў на заробкі ў Расію. З братам звязваўся па вайберы. Аднак ужо каля месяца мужчына не выходзіць на сувязь з блізкімі.

Па словах брата зніклага, мужчына расказваў, што працуе на будаўнічым аб'екце ў Санкт-Пецярбургу. Сёлета ў канцы сакавіка планаваў прыехаць дадому. Аднак да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:** на выгляд 43-45 гадоў, рост каля 180-185 сантыметраў, хударлявы, смуглы, светла-русы, зялёныя вочы, памер абутку 43-44.

**Асаблівыя прыкметы:** на левай руцэ, каля вялікага пальца, ёсць татуіроўка ў выглядзе літары «З».

Міліцыя пераканаўча просіць усіх, хто валодае якой-небудзь інфармацыяй пра месцазнаходжанне зніклых, паведамiць у праваахоўныя органы па тэлефонах: **102, 8(0176) 58-05-61, 8(025) 997-91-18, 8(029) 546-40-44** альбо ў РАУС па адрасе: **Маладзечна, вуліца Галіцкага, 23.**

**Аддзел інфармацыі.**



Бацькі пацярпелага хлопчыка мусілі звярнуцца па дапамогу да медыкаў.

# Сабака ўкусіў 9-гадовага хлопчыка

ВІЛЕЙКА

**Хлопчык разам з бацькамі 5 красавіка прыехаў з Мінска да бабулі ў пасёлак Партызанскі. Калі дзіця каля 18 каталася на ровары, суседскі сабака выскачыў з двара і ўкусіў хлопчыка за левую ягадзіцу.**

Пра здарэнне ў Вілейскі РАУС 6 красавіка паведаміла жыхарка пасёлка.

Па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Мікалая Мягкова**, бацькі хлопчыка звярнуліся па медыцынскую дапамогу. Укус аказаўся нязначным.

Гаспадыня сабакі патлумачыла, што здарэнне магло адбыцца па некалькіх прычынах: аказаўся зламаным карабін ланцуга, забыліся зачыніць уваходныя вароты.

У адносінах да гаспадыні сабакі склалі адміністрацыйны пратакол за парушэнне ўтрымання жывёлы. Меру адказнасці вызначыць суд.

— Хочацца нагадаць жыхарам Вілейшчыны, што ўтрыманне хатніх жывёл — справа адказная. Парушэнне правілаў утрымання катоў, сабак, драпежных жывёл, згодна з часткай першай артыкула 15.47 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях, караецца папярэджаннем або штрафам ад 27 да 405 рублёў. Калі парушэнне правіл утрымання прывядзе да шкоды здароўя ці маёмасці, то, згодна з часткай 2 гэтага ж артыкула, штраф узрасце ад 270 да 810 рублёў. А можа быць і адміністрацыйны арышт на 15 сутак, — звярнуў увагу Мікалай Мягкоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Палілі смецце, а згарэла суседская лазня

АСТРАВЕЦ

Пажар здарыўся 6 красавіка ў вёсцы Завельцы на Астравеччыне каля 18 гадзін. Вясковец вяртаўся дадому пасля працы і ўбачыў, што на суседнім участку гарыць лазня. Будынак ужо спрабавалі тушыць вяскоўцы. Аднак самастойна не змаглі.

Высветлілася, што жыхарка Завельцаў папрасіла двух мужчын дапамагчы ёй спаліць смецце.

**Для бяспекі падрыхтавала вядро з вадой і рыдлёўку. Аднак памочнікі забыліся на іх.**

Ад смецця пачала гарэць сухая трава. Мужчыны кінуліся яе тушыць.

Агонь пайшоў у іншым кірунку — загарэлася лазня, якая належала іншым гаспадарам. Пажар знішчыў дах, пашкодзіў сцены і перакрыцці.

**Паводле ostrovets.by.**

## По чужой банкаўскай картцы вілейчукі куплялі спіртное

ВІЛЕЙКА

Пра гэта карэспандэнту расказала памочнік пракурора Вілейскага раёна **Наталля Стрэж**.

Прыгавор двум жыхарам Вілейкі зачыталі 1 красавіка. Яшчэ ў канцы мінулага года 55-гадовы і 40-гадовы жыхары Вілейкі патрацілі з чужой карткі больш за 60 рублёў.

У лістападзе 55-гадовы віляйчук заўважыў, як у банкамаце, што каля «Зеніта», жанчына забылася картку. Ён забраў картку і пайшоў з ёй да свайго 40-гадовага знаёмага. Расказаў яму пра знаходку, прапанаваў выпіць. Спачатку набылі спіртное на 14 рублёў.

**Калі старэйшы фігурант выпіў і заснуў, маладзейшы сам набываў спіртное ў крамах і кафэ ў Вілейцы. Тавар браў на такую суму, каб не трэба было ўводзіць пін-код.**

У выніку патрацілі ўсяго 48 рублёў 98 капеек.

Па словах Наталлі Стрэж, падчас папярэдняга расследавання мужчыны прызналі сваю віну, раскаяліся. Старэйшы фігурант кампенсаваў пацярпелай усю патрачаную суму.

Асудзілі мужчын па частцы 2 артыкула 212 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь — крадзеж шляхам выкарыстання камп'ютарнай тэхнікі.

Прыгавор суда наступны: 55-гадовы віляйчук атрымаў штраф 810 рублёў, 40-гадовы — абмежаванне волі без накіравання ва ўстанову адкрытага тыпу на тэрмін паўтара года. Абодва будуць таксама прымусова лячыцца ад алкагалізму.

Як адзначыла Наталля Стрэж, павялічылася колькасць злачынстваў з банкаўскімі карткамі. Таму пракуратура нагадвае, што картка заўсёды павінна быць з сабой. Старайцеся не забываць яе ў банкамаце, не насіце разам з карткай пін-код.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Дарвектар-Маш»: забяспечваем дарожныя службы якаснай тэхнікай

**Камунальнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарвектар-Маш» працуе ў Маладзечне ад 1997 года. За гэты час кампанія стала моцным памочнікам дарожнікаў не толькі Беларусі, але і Расіі.**




Пескараскідвальнік з адвалам на КАМАЗ – адна з машын прадпрыемства «Дарвектар-Маш».

Машыны вытворчасці «Дарвектар-Маш» дапамагаюць утрымліваць дарогі ў добрым стане круглы год.

Прадпрыемства бярэ пачатак ад **Дзмітрыя Кострыкава**, які ўзначальваў ДРБУ-195 ад 1965 да 1997 года. У час працы ён стварыў участак малой механізацыі, які стаў зародкам «Дарвектар-Маша». А калі выйшаў на пенсію, запусціў працу фірмы і ўзначальваў яе да 2002 года.

### У чым поспех арганізацыі

У гэты момант у Маладзечне спынялі працу заводы саюзнага значэння – «Спадарожнік», «Модуль» не мелі заказаў. Заслуга Дзмітрыя Кострыкава ў тым, што ён запрасіў у «Дарвектар-Маш» лепшых работнікаў з гэтых заводаў, а таксама інжынерна-тэхнічны персанал, у тым ліку канструктараў.

За першыя пяць год яны распрацавалі шэраг машын для працы на дарогах. Сродкі малой механізацыі для зімовага і летняга ўтрымання аўтамабільных дарог і іншыя патрэбныя дарожнікам прыстасаванні. Гэта адвалы для ачысткі снегу, пескасолераразмеркавальнікі, касілкі, пілы для абрэзкі галін, устаноўкі для вырабу шчэпак.

Тады яшчэ не ведалі, што шчэпкі будуць такім актуальным матэрыялам, так што на той момант працаўнікі нават абганялі час у сваіх распрацоўках. Распрацоўвалі канструктарскую дакументацыю, але спажывец яшчэ не адчуваў запатрабаванасць гэтых машын. А сёння яны ў трэндзе, іх толькі так выкарыстоўваюць лясніцтвы.

Распрацавалі аўтагудранатары, якія карыстаюцца попытам і сёння. У Кострыкава было дальнабачнае мысленне, раз спраектаваныя ў 1997 годзе машыны карыстаюцца попытам і сёння. Шчэбнеразмеркавальнікі ў супрацоўніцтве з французскай фірмай рабілі такія, што падобных не рабіў ніхто ў краіне. Сёння такую машыну заказалі адно прадпрыемства з Гродзеншчыны, адно з Гомельшчыны і з Архангельска. Аўтагудранатар маладзечанскай вытворчасці размяркоўвалі па ўсіх ДРБУ Мінскай вобласці, куплялі і ў Расію – Смаленск, Пскоў, Архангельск.

### Не перашкаджаць людзям працаваць

**Юры Карповіч** прыйшоў працаваць у ДРБУ ў 1985 годзе. Працоўная дзейнасць цалкам звязаная з ДРБУ-195. Працаваў майстрам да дарозе, на асфальтавым заводзе ў Палачанах адпрацаваў 15 год. Там рабілі запчасткі на ўчастку малой механізацыі, а гэта імпартазамяшчэнне для дарожных арганізацый вобласці. Ад 2000 года працаваў начальнікам ДРБУ. Як кажа Юры Анатольевіч, ён у кар'еры ішоў па слядах Кострыкава. І ад яго пераняў прынцып: калі нешта не атрымлівалася, гэта не страшна. Адмоўны досвед – таксама досвед. Ад 2007 года Юры Карповіч узначаліў «Дарвектар-Маш».

– Мой прынцып кіравання – не перашкаджаць людзям працаваць, – кажа кіраўнік. – Кожны з работнікаў імкнецца зарабіць зарплату, а не атрымаць. У нас заробак здзельны. Гэта добры матыватар. Калі ў калектыве сабраліся людзі, нацэленыя на тое, каб зарабіць, то яны самі будуць старацца выдатна працаваць.

### Штучная вытворчасць

У вытворчасці арганізацыі ёсць асаблівасць, якая адначасова выручае і прыносіць складанасці. Дарожная тэхніка з кожным сезонам мяняецца. Зімой трэба чысціць снег, летам касіць траву. На кожны від работ неабходныя новыя машыны. Таму работнікам штосезон трэба перастройвацца і рабіць тое, што не рабілі год. Але ў той жа час цікавей працаваць, калі задачы мяняюцца. Тут не серыйная вытворчасць, а штучная. Таму пастаянна неабходна перастройвацца.

Моцнае супрацоўніцтва завязалася ў кампаніі са смаленскімі калегамі, для якіх пастаўляюць гатовыя прадукты, дэталі машын. У мінулым годзе фірма з 50 чалавек зарабіла каля 600 тысяч долараў на экспарце.

Цёплая зіма паўплывала сёлета на арганізацыю. Расія пасля новага года зусім не заказвала тэхніку для зімовага ўтрымання дарог. А ў звычайныя зімы прадавалі і ў лютым. Менавіта машыны і камплектуючыя зімовага ўтрымання – асноўная частка прадукцыі на экспарт.

Кіраўнік упэўнены, што пандэмія і каранцін, а таксама змены цаны на нафту – усё гэта адбіваецца на калектыве прадпрыемства. Але і ў такіх умовах важна працягваць працаваць як мага лепш.



Шчэбнеразмеркавальнік.

### Добрыя кадры добра працуюць

Зрабіць складаную машыну – вельмі прыемна. Такая праца вымагае цягнуцца, выкарыстоўваць інтэлект напоўніцу, вучыцца. Кіраўнік адзначае, што знайсці добрага дасведчанага работніка – задача з зорачкай. Многія маладыя спецыялісты імкнуцца працаваць за камп'ютарам, а токары, слесары, фрэзероўшчыкі і іншыя спецыялісты пераважна паважанага ўзросту. Хаця талковы токар можа зарабіць прыстойныя грошы, больш за многіх ІТР.

Канструктары – прафесія, дзе чалавек павінны мець не толькі веды, але і палёт думак. Таму іх вельмі цэняць і гатовыя пераманьваць з іншых кампаній.

У 2019 годзе сярэдні заробак па прадпрыемстве быў 1400 рублёў.

На думку кіраўніка, самае важнае для кампаніі – вырабляць дарожную тэхніку, якая будзе надзейна працаваць, якасна апрацоўваць дарогі і дазволіць аптымізаваць работу дарожных службаў.

### Што выпускае «Дарвектар-Маш»

Прадпрыемства спецыялізуецца на праектаванні і выпуску навяснога і прычапнога абсталявання, прызначанага для рамонту і абслугоўвання аўтамабільных дарог.

«Дарвектар-Маш» выпускае:

– аўтагудранатары «АГДС-3600»

– комплексныя дарожныя машыны «Чыпсілер 3.2 і 4.0»

– шчэбнеразмеркавальнікі (ШчРД-3.5 і ШчРД-1400)

– устаноўкі для ямачнага рамонту тыпу «Тайфун»

– тэхніку і абсталяванне для зімовага ўтрымання дарог

– тэхніку і абсталяванне для летняга ўтрымання дарог

– тэхнічныя прылады і вырабы для арганізацыі дарожнага руху

– абсталяванне і вырабы для асфальтабетонных заводаў.

УНП 691504617

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

• ПРАДАЕЦЦА

• Хундай-Аксэнт, 2014 г.в, прабег 58 тыс. Т. (8-029) 2611461, (8-029) 9187744.

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

**КУПЛЮ**

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029)6412706,(8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

**ПРАДАЕЦЦА**

• Дача ў Асінаўцы. Участак 10 сотак. Смаргонь. Т. (8-033) 3591382, МТС (8-044) 5622655.*

• Дача ў Лазаўцы, кааператыў «Крышталь-2009». т. (8-029) 2644252.*

• Дом недабудаваны ў рысе горада Астравец. Побач лес і возера. Т. (8-029) 5322793.*

• Дом у аграгарадку Гальшаны па вул. Замкавай. Ёсць газ, водаправод, каналізацыя. Т. (8-029) 5846900.*

• Дом у вёсцы Асінаўка, 2 м ад возера. Т. (8-033) 3591382, МТС (8-044) 5622655.*

• Дом у Вілейцы з усімі выгодамі. Т. (8-029) 7667446.*

• Зямельны ўчастак 20 сотак у 100 м ад возера Вялікія Швакшты ў в. Цюкшы Нарачанскага с/с. Прыгожае месца для адпачынку і рыбалкі. Беларуская природа заменіць вам мора. Чысты пляж з белым пяском. Побач лес. Без суседзяў. Пад'езд круглы год. Нядорага. Торг да месца. Т. Вэлком (8-029) 6154551.

## ПАСЛУГІ

**ДЛЯ МАЛАДЫХ**

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

**ГРУЗАПЕРАВОЗКІ**

• Грузаперавозкі з маніпулятарам. ІП Баброўка Д.А. УНП 692028167. Т. (8-044) 5521402.*

**БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА**

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

**ІНШЫЯ ПАСЛУГІ**

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважин). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вагонка для лазні, паліц, вольха, дошкі для падлогі, паганажныя вырабы, брускі і інш. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029)1891477, (8-029)2518322.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

**ПРАДАЕЦЦА**

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

**Бытавая тэхніка**

• Пральная машына-аўтамат Candy, як новая, нядорага. Т. (8-033) 6407558.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Казляняты ад парадзістых коз. Т. (8-029) 6671187.

• Шчаняты ўсходне-еўрапейскай аўчаркі чыстакроўныя. Т. (8-029) 9106184.*

**Іншае**

• Прычэп да мотаблока. Т. (8-0440 4703638.

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

• **УНІВЕРСАЛЬНЫ ФУГАВАЛЬНЫ ВАЛ НОВЫ. Т. (8-029) 9430353.***

**КУПЛЮ**

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Быка (бычка). Т. (8-029) 6245014.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу буйную. Т. (8-029) 2637474, (8-029) 3757244, (8-033) 6316371.*

## ПРАЦА

**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Прадавец у а.г. Палачаны. Прыстойнасць, адказнасць, з/п аклад + прэміі. Т. (8-029) 6383331.*



Выхаванцы садка даглядаюць агарод.

# Дашкольнікі вырошчваюць гародніну на падваконні

СМАРГОНЬ

**Вясной, калі прырода прачынаецца ад зімовага сну, на падваконнях ясляў-садка №15, што ў Смаргоні, з'яўляецца дзіўны агарод.**

Тут дзеці атрымліваюць не толькі першыя навыкі вырошчвання раслін сваімі рукамі і догляду за імі. Дашкольнікі даведваюцца пра ўмовы вырошчвання розных раслін, пра значэнне святла і цяпла ў іх жыцці.

Агарод на падваконні спрыяе развіццю дапытлівасці і назіральнасці ў дзяцей і дапамагае лепш пазнаваць жыццё раслін. Дзеці пачынаюць разумець, што з маленькага насення, дзякуючы догляду і клопату, можа вырасці вялікая і моцная расліна.

Прыгожы і дагледжаны агарод на падваконні цешыць нашых выхаванцаў, развівае экалагічнае мысленне, эстэтычныя пачуцці, уменне радавацца прыгажосці раслін, якія падрастаюць, і вынікам сваёй працы. Тым больш, што сам працэс догляду і вырошчвання агарода на падваконні вельмі займальны і цікавы.

**Алена ТРАСКОЎСКАЯ,**
**музычны кіраўнік ясляў-сада №15 горада Смаргоні.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



## У Касуце ўганаравалі аўтара першай Канстытуцыі Украіны

**5 красавіка намеснік старшыні маладзечанскай украінскай суполкі «Краяны» Леанід Лысакабылка і першы сакратар Амбасады Украіны Іван Башняк прыехалі ў Касуту, што на Вілейшчыне, каб уганараваць ураджэнца вёскі аўтара першай Канстытуцыі Украіны Піліпа Орліка.**

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

Паездку прысвяцілі 310-годдзю з дня прыняцця Канстытуцыі. Падзея адбылася ў 1710 годзе.

– Прыехалі мы толькі ўдвух, – расказаў карэспандэнту Леанід Лысакабылка. Людзей было сабраць цяжка: хто з-за каранавіруса нікуды не выходзіць, хто пайшоў вярбу ў касцёл свянцаць. Паклалі кветкі да памятнага знака ў гонар Пілiка Орліка, пакланіліся, прыгадалі яго як аўтара першай Канстытуцыі Украіны.

Піліп Орлік нарадзіўся ў 1672 годзе ў вёсцы Касута на Вілейшчыне (тады Ашмянскі павет Віленскага ваяводства) у сям'і літвінскай шляхты чэшскага паходжання. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Вільні, у Кіева-Магілянскай акадэміі. Вядомы як украінскі ваенны, палітычны і дзяржаўны дзеяч, гетман Запарожскага войска ў выгнанні, паэт, публіцыст, аўтар першай Канстытуцыі Украіны. Памёр у 1742 годзе на тэрыторыі сучаснай Румыніі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Салоны прыгажосці і крамы адзення зачыненыя. Ля метро – паліцыя

## Наш зямляк расказаў, як жыве Масква на каранціне

АШМЯНЫ

**Ураджэнец Ашмянаў Аляксей Лукашэвіч некалькі год жыве і працуе ў Маскве. Хлопец расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» пра тое, як жыве Масква падчас каранціну.**

### Скуплялі макарону і грэчку

– З пачаткам каранавіруса былі дзве невялікія хвалі прадуктовай панікі, – кажа Аляксей. – Першая, калі папаўзлі чуткі аб магчымым каранціне, другая – калі аб'явілі, што будуць непрацоўныя дні.

Па словах суразмоўцы, у крамах скуплялі макарону, грэчку, іншыя крупы. У дні панікі можна было ўвечары не знайсці тавару ў краме, але зранку паліцы былі запоўненыя. У асобных крамах нават выстаўлялі побач з паліцамі паддоны грэчкі, макароны, круп, каб народ бачыў, што тавару хапае. Так ажыятаж на прадукты спаў.

### Масква апусцела

– Вырас попыт на індывідуальныя маскі, – працягвае Аляксей. – У аптэках іх не знайсці, у анлайн-крамах скончыліся нават па вялікім кошце. Але ў сацсетках, чатах народ аб'ядноўваецца і праз знаёмых знаходзіць і набывае маскі невялікімі партыямі.

З пачаткам абавязковай самаізаляцыі Масква апусцела. Машын паменела недзе на 60-70 працэнтаў. Людзей на вуліцы яшчэ менш. Тыя, хто выходзіць, – большасць у масках. Ля ўвахода ў метро – паліцыя. Але ніякіх дзеянняў не прымае. Транспарт працуе, але народу ў ім няшмат.

Па словах Аляксея, большасць працадаўцаў, якія маглі, перавялі сваіх працаўнікоў на рэжым працы з дому. У офіс ходзяць толькі па пэўнай патрэбе. Працягвае працаваць вытворчасць з бесперапынным цыклам, працуюць склады. Значна вырасла патрэба на службы дастаўкі, якія працуюць нон-стопам. Яны нават пашыраюць штат.

А вось кафэ, фітнес, салоны прыгажосці, а таксама крамы з адзеннем, электронікай зачыненыя. Працуюць толькі прадуктовыя крамы і тыя, дзе прадаюць тавары для жывёл. Пакуль Масква і вобласць жывуць у рэжыме абавязковай самаізаляцыі, якую працягнулі да канца красавіка. Ад нядаўняга часу ўвялі штрафы за парушэнні рэжыму.

У дамах кожную раніцу санітарная апрацоўка. Раней была разва на тыдзень, у залежнасці ад сезона. Камендацкай гадзіны няма. Шмат фэйкаў і чутак было ў інтэрнэце, але не пацвердзіліся. Цяпер, заўважае Аляксей, ніякай панікі няма.

Але калі напачатку ўсё ўспрымалася як быццам нас гэта не кране, то цяпер абсалютная большасць знаёмых, калег успрымаюць меру самаізаляцыі як правільную і патрэбную. Мінімізавалі знаходжанне на вуліцы, наведванне крамаў, сядзяць па кватэрах, адзначае Аляксей.

І прыводзіць прыклад: у знаёмага кіраўнік зацягваў з пераводам людзей на працу дома. Тады калектыў напісаў афіцыйны зварот і прыгразіў паскардзіцца ў мэрыю і пракуратуру. Падпісаліся ўсе. Перавялі без наступстваў. Цяпер працуюць з дома.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота забяспечанае героем публікацыі.

Аляксей Лукашэвіч.



# Чыгунка – зона павышанай небяспекі

**Паважаныя чытачы! Чыгунка – гэта зона павышанай небяспекі, дзе галоўным траўмуючым фактарам быў і застаецца наезд рухомага саставу, высокае напружанне ў кантактным провадзе. Таму знаходжанне людзей у зоне чыгункі можа быць смяротна небяспечным.**

Але ёсць людзі, якія, гледзячы на плакаты, што прапагандуюць Правілы бяспекі грамадзян пры знаходжанні ў зоне павышанай небяспекі, усё роўна працягваюць іх парушаць. Больш за ўсё здзіўляе тое, што так робяць дарослыя, якія падаюць прыклад сваім дзецям і ўнукам, забываючы, што, у канчатковым выніку, яны рызыкуюць жыццём.

Дзіцячы траўматызм выклікае асаблівую трывогу ва ўмовах развіцця высакахуткаснага руху. Бо дзеці не заўсёды могуць ацаніць рэальную небяспеку. Грэбуючы існуючай забаронай, некаторыя з іх самастойна знаходзяцца на чыгуначных пуцях, чапляюцца за аўтасчэпкі і падножкі вагонаў. Свавольства не застаецца непакараным, дзеці атрымліваюць траўмы рознай цяжкасці і, як правіла, застаюцца інвалідамі.

Ад пачатку 2019 года па Маладзечанскай дыстанцыі пуці былі шэсць выпадкаў траўмавання грамадзян на чыгуначных пуцях:

- у студзені на перагоне Палачаны-Валожын цягнік наехаў на мужчыну, які ляжаў на рэйкавай каляіне на шляху руху цягніка;
- у лютым былі два выпадкі траўмавання:
  - на п.п. «Зялёнае» быў траўмаваны мужчына, цела якога знайшлі ў дзесяці метрах ад пасадачнай платформы;
  - на чыгуначным пераездзе станцыі Уша быў траўмаваны мужчына, які пераходзіў па пешаходным пераходзе чыгуначнага пераезда ў непасрэднай блізкасці ад цягніка, які набліжаўся;
- у ліпені на перагоне Радашкавічы-Дубравы быў траўмаваны мужчына, які знаходзіўся ў каляіне чыгуначнага пуці спінай да цягніка;
- у жніўні на перагоне Маладзечна-Уша траўмаваны падлетак, які выехаў на чыгуначны пераезд на ровары пры забараняльных сігналах сігналізацыі;
- у лістападзе на перагоне Ратамка-Крыжоўка адбыўся наезд цягніка на мужчыну, які пераходзіў чыгуначныя пуці ва неўстаноўленым месцы.

Усе выпадкі траўмавання грамадзян адбыліся па прычыне незахавання правілаў знаходжання на чыгуначных пуцях і ўласнай безадказнасці і неасцярожнасці ў зоне павышанай небяспекі паблізу чыгункі на перагонах і станцыях.

Аналіз няшчасных выпадкаў з грамадзянамі, не звязанымі з вытворчасцю, паказаў, што колькасць няшчасных выпадкаў застаецца высокай, і гэта выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам і якія жывуць каля чыгункі.

### Правілы бяспечных паводзін на чыгуначным транспарце:

1. Пераходзьце чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах, па насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўсталяваны ўказальнікі «Пераход праз пуці».
2. Перад пераходам праз пуці па пешаходным насціле пераканайцеся ў адсутнасці рухомага цягніка, лакаматыва, вагонаў.
3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва ці вагонаў спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, ідзіце далей.
4. Падыходзячы да чыгуначнага пераезда, уважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй, а таксама становішчам шлагбаўма. Пераходзьце пуці толькі пры адкрытым шлагбаўме, а пры яго адсутнасці, перш чым перайсці пуці, неабходна пераканацца, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў або вагон.
5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце з вагонаў толькі пасля поўнага спынення цягніка з боку пасадачнай платформы.

### ЗАБАРАНЯЕЦЦА:

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.
2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад цягніком, калі ён блізка, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.
3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго кірунку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка па сустрэчным кірунку.
4. Выходзіць з вагона на міжпуцці і стаяць там пры праходзе сустрэчнага цягніка.
5. На станцыях і перагонах падлазіць пад вагоны і пералазіць праз аўтасчэпкі, каб перайсці праз пуці.
6. На электрыфікаваных участках набліжацца да не абгароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ПЛ), падымацца на электраапоры.
7. Набліжацца да электраправаду, які ляжыць на зямлі, бліжэй за восем метраў.
8. Ісці ўздоўж чыгуначнага пуці бліжэй за пяць метраў ад крайняй рэйкі.
9. Падлазіць пад закрыты шлагбаўм на чыгуначным пераездзе, а таксама выходзіць на пераезд, калі шлагбаўм пачынае закрывацца.
10. Ездзіць на дахах, падножках, пераходных пляцоўках вагонаў.
11. Высоўвацца з вокнаў вагонаў і дзвярэй тамбураў на хаду цягніка.
12. Заходзіць за лінію бяспекі ля краю пасажырскай платформы.
13. Скакаць з платформы на чыгуначныя пуці.
14. Наладжваць на платформе розныя рухомыя гульні.
15. Праходзіць па чыгуначных мастах і тунэлях, якія не прызначаныя для пераходу пешаходаў.
16. Бегчы па платформе побач з вагонам цягніка, які прыбывае ці адыходзіць, а таксама знаходзіцца бліжэй за два метры ад краю платформы падчас праходжання цягніка без прыпынку;
17. Пакідаць без нагляду дзяцей на пасадачных платформах і ў вагонах.
18. Перавозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.
19. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва не ўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовых і далёкіх шляхоў зносін.

Паважаныя чытачы газеты! Мы хочам вам усім пажадаць здароўя, і каб вы заўсёды выконвалі правілы паводзін на чыгунцы, не падвяргалі сваё жыццё і тых, хто побач, небяспецы, не праходзілі міма дзяцей, якія парушаюць правілы паводзін на аб'ектах чыгуначнага транспарту. Дзякуй!

**З павагай, начальнік Маладзечанскай дыстанцыі пуці С.Л.Матрашыла.**

# Адно паражэнне за сезон і два кубкі

## Як маладзечанскі футбол перамагаў у 1963 годзе

Маладзечанскі «Спартак».



Праект «Рэгіянальнай газеты», прысвечаны маладзечанскаму футболу, рэалізаваны дзякуючы «Мінскаму мэблеваму цэнтру». Чытайце на rh.by/projects/football.

**У 1960 годзе маладзечанскі гаркам вырашыў заявіць футбольную каманду ў чэмпіянат БССР сярод калектываў фізічнай культуры.**

Шэфства над камандай узяў дырэктар гармоннай фабрыкі **Пётр Смірноў**. **Юры Адзінцоў** успамінаў, як гаркам даручаў Смірнову каманду:

– Смірноў быў аматарам футбола. У гаркаме яму кажуць, давай зробім каманду. Створым ёй незалежныя ўмовы, трэба, каб футбалісты Маладзечна ўдзельнічалі ў чэмпіянаце БССР. Назва «Спартак» пайшла ад таго, што гэта спартыўнае таварыства аб'ядноўвала прадпрыемствы мясцовай прамысловасці, такія, як гармонная фабрыка.

У 1960-м каманда заняла шостае месца. А потым два гады запар маладзечанскі «Спартак» займаў другія месцы ў чэмпіянаце БССР.

### Да старту сезона-1963 застаецца месяц

Спартакаўцы рыхтаваліся да сезона-1963 ад сакавіка. Трэніроўкі праходзілі тры разы на тыдзень на базе школы №6. Пазаштатны карэспандэнт «Святла камунізму» пісаў, што ўвага на трэніроўках надаецца агульнафізічнай падрыхтоўцы, а таксама адпрацоўцы тэхнічных прыёмаў. Футбалісты правялі кантрольную гульню з маладзечанскімі дынамаўцамі, у якой перамаглі сапернікаў.

Са складу каманды выбылі **Барыс Садзердзінаў**, **Аляксандр Наваш** і **Мікалай Чаеўскі**. **Валер Максімаў** перайшоў у мінскі «Спадарожнік», з якім маладзечанцы сустрэнуцца ў сезоне-1963.

«Спартак» трэніраваў Юры Адзінцоў, які часам сам выходзіў на футбольнае поле. Варатаром з мінулых сезонаў застаўся **Альберт Зайцаў**. У абароне гулялі **Анатоль Шэлюх**, **Уладзімір Васаган**, **Золя Сіроткін**, **Арнольд Бохан**. У паўабароне і нападзенні – **Юры Саланенка**, **Віктар Кандулінскі**, **Вячаслаў Бёрдачкін**, **Яўген Катоўскі**, **Іван Траскоўскі** (капітан).

У футбалістаў перад пачаткам сезона не было траўмаў. Многія спартсмены сумяшчалі выступленне за «Спартак» з працай і навучаннем. Напрыклад, Саланенка вучыўся ў політэхнічным інстытуце, Золя Сіроткін і Арнольд Бохан – у інстытуце фізічнай культуры.

### Першы матч – першая перамога

Сезон пачаўся ў маі. Перад пачаткам першага матча галоўны суддзя **Аляксандр Гарбылёў** уручыў «Спартаку» прыз за справядлівую гульню ў 1962 годзе.

Першы матч спартакаўцы правялі супраць футбалістаў мінскага «Гвардзейца». Перад розыгрышам капітаны камандаў Іван Траскоўскі і **Васіль Крывіцкі** паднялі сцяг чэмпіянату.

У маладзечанскай раёнцы так пісалі пра той матч:

«Раздаўся сігнал судзейскай сірэны. Цэнтральны нападаючы гасцей **Уладзімір Грамякін** увёў мяч у гульню. З першых мінут спаборніцтваў спартакаўцы распачалі рашучы штурм варот гасцей. На восьмай мінуце матча Яўген Катоўскі моцна б'е па варотах, і варатар мінчан **Мікалай Павароха** парыруе ўдар, але падаспеўшы Юры Саланенка накіроўвае мяч у сетку варот.

Потым Іван Траскоўскі, авалодаўшы мячом, імкліва праходзіць па левым краі і робіць падоўжаную падачу, а Вячаслаў Бёрдачкін мацнейшым ударам забівае другі гол. На 12-й мінуце ўдар Саланенка адбівае штанга, ад штагі мяч падае на галаву Катоўскага і зноў ледзь не пападае ў вароты мінчан.

Да канца першай палавіны матча адна з контратак гасцей закончылася ўзяццем варот, якія абараняліся Альбертам Зайцавым. З лікам 2:1 на карысць маладзечанскіх футбалістаў каманды сыходзяць на адпачынак.

У другой палавіне ўжо на трэцяй мінуце Вячаслаў Бёрдачкін забівае трэці мяч у вароты сваіх сапернікаў. Да канца сустрэчы гасцям так і не ўдалося зраўняць лік. Перамаглі спартакаўцы з лікам 3:1».

Іван Траскоўскі яшчэ не адзін раз адзначыцца ў платаколах матчаў. Да прыкладу, у першай выязной гульні капітан «Спартака» дапамог камандзе прывезці ў Маладзечна перамогу – забіў два безадказныя галы гродзенскаму «Нёману».

### Спартакаўцы сталі лідарамі чэмпіянату

Напрыканцы мая 1963-га маладзечанцы згулялі нічыю з брэсцкім «Лакаматывам». У наступнай гульні Адзінцоў і Траскоўскі забілі па голе мінскаму «Будаўніку». Пасля матча спартакаўцы ўжо мелі на рахунку дзевяць ачкоў – так яны занялі першае месца ў турнірнай табліцы.

У сярэдзіне чэрвеня «Спартак» згуляў з мацнейшай камандай таго часу – мінскім «Спадарожнікам». Менавіта ў гэту каманду вясной перайшоў Валер Максімаў. «Святло камунізму» піша, што ў гульні на працягу першага тайма дамінавалі мінскія футбалісты, аднак варатар Альберт Зайцаў не даў забіць мяч у вароты маладзечанцаў. Таксама спартыўны карэспандэнт адзначае, што на апошніх хвілінах перад перапынкам Іван Траскоўскі забіў «прыгажэйшы мяч сезона» ўдарам праз сябе. У другім тайме спартакаўскі абаронца **Юрынаў** забіў аўтагол: «Балельшчыкі яшчэ не раз абураліся слабай гульнёй Юрынава і кіраўніцтвам каманды, якое дапусціла яго на гэты адказны матч». «Спартак» згуляў другую нічыю ў сезоне.

### Гульні з экс-чэмпіёнамі БССР

У 1962 годзе «Хваля» на папярэднім этапе чэмпіянату Беларусі заняла першае месца. У фінальным этапе пінчукі завяршылі сезон на пятым месцы, аднак лічыліся моцнай камандай.

У чэрвені 1963-га маладзечанскія футбалісты правялі з пінскай «Хваляй» матч пад праліўным дажджом, аднак трыбуны былі запоўненыя людзьмі. Спартакаўцы першымі забілі гол. Госці разыгралі мяч, але тут жа страцілі яго, ім завалодаў Іван Траскоўскі. Капітан «Спартака» выйшаў адзін на адзін з варатаром **Уладзімірам Сапожнікавым** і забіў гол. Яўген Катоўскі праз пяць хвілін аформіў другі гол.

Пасля перапынку футбалісты «Хвалі» атакавалі вароты Зайцава, але змаглі прабіць у створ толькі адзін раз і недакладна. На 52-й хвіліне Уладзімір Васаган забівае штрафны ўдар у «дзявятку».

Яшчэ праз 15 хвілін поле пакідаюць спартакаўцы Бохан і Сіроткін, яны атрымалі траўмы. Іх замянілі **Салагуб** і Максімаў.

«Гэта да некаторай ступені аслабіла нашу абарону. І праз тры хвіліны **Расціслаў Старшынін** з «Хвалі» забівае мяч у адказ», – пісалі ў маладзечанскай раёнцы.

Пасля перамогі над былым чэмпіёнам Беларусі з лікам 3:1 пра «Спартак» казалі, што каманда «мае рэальную магчымасць змагацца за ганаровае званне чэмпіёнаў Беларусі».

У наступным туры спартакаўцы сустрэліся з чэмпіёнамі фінальнага этапу ў 1962 годзе – мінскім «Тарпеда». У пер-




«Спартак» на выездзе ў Кубку СССР.



Фота з архіва Адзінцовых.

Першы матч у сезоне-1963.

шым тайме тарпедаўцы актыўна атакавалі вароты сапернікаў, а форвард **Цярахаў** адкрыў лік у матчы. Вячаслаў Бёрдачкін забіў мяч у адказ перад перапынкам. У другой палове гульні спартакаўцы перахапілі ініцыятыву і часцей за сапернікаў аказваліся ў штрафной зоне «Тарпеда». Але трэці гол у матчы забілі тарпедаўцы. Ім адказаў усё той жа Бёрдачкін.

Спартыўны карэспандэнт «Святла камунізму» адзначаў «грубую гульню тарпедаўцаў, якія на першых хвілінах гульні падбілі капітана Івана Траскоўскага, і ён пакінуў поле». Без галоўнага бамбардзіра «Спартак» завяршыў гульню ўнічыю. Нягледзячы на 2:2 з «Тарпеда», маладзечанцы працягвалі лідзіраваць у чэмпіянаце БССР.

## Як спартакаўцы загадзя сталі чэмпіёнамі

Іван Траскоўскі пасля траўмы ў матчы з тарпедаўцамі вярнуўся на футбольнае поле ў наступнай гульні. «Спартак» перамог бабруйскі «Фандок» 3:0. Траскоўскі адзначыўся галамі, а яшчэ адзін мяч забіў Яўген Катоўскі.

У наступным туры маладзечанцы з’ездзілі ў Полацк да «Дзвіны». Бёрдачкін і Кандулінскі выйгралі гульню для спартакаўцаў, хоць сапернікі і адзначыліся адным мячом.

Пасля перамогі над полацкімі футбалістамі «Спартак» незалежна ад выніку наступнага матча стане чэмпіёнам БССР.

## Спартакаўцам далі чэмпіёнскія медалі перад апошняй гульнёй

14 ліпеня 1963 года спартакаўцы выйшлі на гарадскі стадыён Маладзечна пад гукі марша. Футбалістаў узнагародзіў залатымі медалямі намеснік старшыні федэрацыі футбола БССР **Сокалаў**. Спартакаўцам перадалі пераходны кубак, які ўпершыню за час беларускага футбола трапіў у Маладзечна. Футбалісты перад апошняй гульнёй чэмпіянату зрабілі круг гонару пад гукі марша і авацыі заўзятараў.

Матч з віцебскім «Чырвоным сцягам» нічога не вырашаў. Аднак менавіта ў той гульні маладзечанскія футбалісты заваёўваюць самую буйную перамогу ў сезоне – 5:3. У першым тайме Яўген Катоўскі аформіў дубль, а сапернікі адзначыліся адным мячом. У другім тайме «Спартак» пачаў насядаць на палову віцяблян. Бёрдачкін хутка забіў пасля перадачы Саланенкі, а яшчэ праз некалькі хвілін Катоўскі зрабіў хет-трык. Пяты гол у матчы аформіў таксама Бёрдачкін. Вароты Зайцава не засталіся «сухімі» ў другім тайме. **Гарый Іваноў** з «Чырвонага сцяга» запісаў на свой рахунак два мячы.

**Адным з расчараванняў для маладзечанскіх заўзятараў стала адсутнасць Івана Траскоўскага. Лідар спартакаўцаў атрымаў траўму ў гульні з «Дзвіной».**

Такім чынам, за два месяцы сезона-1963 спартакаўцы ўпершыню сталі чэмпіёнамі БССР сярод калектываў фізічнай культуры. Аднак наперадзе ў маладзечанскага «Спартака» былі яшчэ гульні за Кубак БССР.

## «Спартак» перамог у Кубку Мінскай вобласці

Летам 1963 года маладзечанскім футбалістам трэба было перамагчы салігорскую каманду, каб выйсці ў фінал Кубка вобласці. У першай палове гульні з-за Арнольда Бохана назначаюць пенальці – так Салігорск выйшаў наперад. У другім тайме салігорская каманда перайшла ў абарону, яны не давалі магчымасці спартакаўцам забіць. Аднак Іван Траскоўкі, які аднавіўся пасля траўмы, вырваў перамогу для «Спартака» – забіў з пенальці і з гульні.

У сярэдзіне жніўня на дамашнім полі ў фінале Кубка спартакаўцы згулялі з мінскім «Гвардзейцам». Каманды не забілі ніводнага мяча ў першым тайме, гулялі асцярожна. У другой палове сустрэчы Іван Траскоўскі на 60-й мінуце забіў адзіны гол у матчы. «Спартак» стаў чэмпіёнам Мінскай вобласці. Гэтак маладзечанцы атрымалі права згуляць у Кубку Беларусі.

## Дарога да Кубка БССР

У Кубку Беларусі ўдзельнічалі 16 камандаў: па дзве ад кожнай вобласці і чатыры ад Мінска. У першым матчы за Кубак краіны спартакаўцы згулялі супраць футбалістаў мінскага станкабудаўнічага завода.

**У рамках кубкавых сустрэч гэта гульня завяршылася з самым буйным лікам для спартакаўцаў. Яны перамаглі мінчукоў 7:1.**

Потым маладзечанцы адправіліся ў Пінск, дзе гулялі з «Хваляй». Сапернікі забілі гол ужо праз шэсць хвілін ад старту гульні. Аднак на 18-й хвіліне Траскоўскі аддаў мяч Саланенку, які зраўняў лік у матчы. За некалькі хвілін да перапынку Яўген Катоўскі вывеў «Спартака» наперад. Гол Катоўскага стаў пераможным – маладзечанцы выйшлі ў паўфінал Кубка БССР.

25 жніўня 1963-га ў Маладзечна прыехаў магілёўскі «Металург», каб згуляць паўфінальную сустрэчу. Адзначаецца, што ў той час капітанам каманды замест Івана Траскоўскага ўжо з’яўляецца Юры Саланенка. Першы мяч спартакаўцы забіваюць з вуглавога: Васаган накіраваў мяч у штрафную, а Кандулінскі замыкае. У першай палове гэты футбаліст «Спартака» адзначыўся яшчэ адзін раз: Катоўскі прабіў штрафны, але недакладна, а вось Кандулінскі дабівае. У другім тайме той жа спартакаўскі футбаліст робіць хет-трык. «Металург» адказаў адным мячом, але Саланенка ўсё ж аформіў гол, і маладзечанская каманда перамагла 4:1.

У маладзечанскай раёнцы быў вялікі артыкул пра тую паўфінальную гульню. Трэнер «Металурга» даў інтэрв’ю і патлумачыў прычыны паражэння. Адной з іх сталі мясцовыя ўлады Маладзечна:

**– Каманда «Спартак», па-мойму, – адна з самых моцных у рэспубліцы, вашы футбалісты знаходзяцца ў добрай спартыўнай форме. Каманда добра асвоіла бразільскую сістэму гульні 1+4+2+4.**

Пройгрыш сваёй каманды **Муралёў** тлумачыў двума фактарамі: па-першае, адсутнасцю двух мацнейшых гульцоў – **Лешчука** і **Яфімава**, якія атрымалі траўмы ў папярэдняй гульні. Па-другое, магілёўскія футбалісты перад сустрэчай не змаглі добра адпачыць. Нягледзячы на тое, што тэлеграма аб прыездзе каманды «Металург» была атрыманая гарадскім Саветам саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый 23 жніўня ў 16 гадзін, спартсменаў на вакзале ніхто не сустракаў і месцы ў гасцініцы не былі забраніраваныя. Футбалістам давялося «адпачываць» усю ноч на падаконніках і падлозе.

У фінальным матчы Кубка БССР спартакаўцы сустрэліся са «Спадарожнікам». Першая палова прайшла пад націскам сталічных футбалістаў. Сіроткін цудам выбівае мяч са сваіх варот, Зайцаў зрабіў некалькі сэйваў, а Саланенка прабіў міма варот саперніка, калі ў спартакаўцаў з’явіўся адзіны шанец забіць. У другім тайме за дзевяць хвілін да канца футбалісты «Спадарожніка» зрабілі лік 1:0. Так «Спартак» прайграў адзін матч за сезон і гульню за чэмпіёнства ў Кубку Беларусі.

## Першыя крокі спартакаўцаў у Кубку СССР

У фінале Кубка БССР «Спартак» прайграў «Спадарожніку», але незалежна ад выніку гульні спартакаўцы матчам з «Металургам» заваявалі права згуляць у Кубку СССР.

У сярэдзіне верасня спартакаўцы правялі гульню 1/16 фіналу Кубка СССР. Маладзечанцы прымалі на дамашнім полі ўладальніка Кубка Смаленскай вобласці і пераможцу занальных спаборніцтвах на Кубак РСФСР каманду «Зорка» са Смаленска.

«Зорка» актыўна гуляла ў атацы на працягу першай паловы. Пасля памылкі абаронцы Васагана, які неасцярожна адправіў мяч у штрафную пляцоўку, дзе знаходзіўся адзін з нападаючых гасцей, смаленскі футбаліст забіў мяч у вароты «Спартака». Хутка Юры Саланенка ў контратацы зраўняў лік – 1:1.

Гол Саланенкі змяняе тэмп гульні і аддае перавагу ў рукі чэмпіёна Беларусі. Пасля перапынку ў маладзечанцаў былі тры шанцы на працягу чатырох хвілін, каб забіць галы. Аднак Кандулінскі, Траскоўскі і Саланенка білі міма варот.

Спартакаўцы працягнулі атакаваць. Яшчэ адзін шанец з’явіўся ў Траскоўскага. Ён уварваўся ў штрафную зону, але яго груба знеслі абаронцы. Суддзя назначыў пенальці, які рэалізаваў Яўген Катоўскі. Потым Саланенка і Траскоўскі ўсё ж такі заб’юць «Зорцы» і давядуць лік да 4:1.

***

У маладзечанскай раённай газеце пісалі, «калі гэтыя якасці не заглухнуць, а разаўюцца далей, то нашы футбалісты паднясуць нам яшчэ не адзін радасны сюрпрыз».

**Аднак у 1964 годзе каманду пераймянуюць у «Нарач». «Нарач» завяршыць папярэдні этап на першым месцы, але ў фінальнай частцы чэмпіянату БССР зойме толькі шосты радок.**

Наступны пераможны сезон для маладзечанскага футбола адбудзецца амаль праз 30 гадоў – у 1991-м.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

У сучасным свеце мы перанасычаныя лішняй інфармацыяй. Часам, каб знайсці патрэбную кнігу ці фільм, мы губляем не адзін вечар. Таму вырашылі рабіць падборкі самых вартых твораў мастацтва, каб нашы чытачы маглі знайсці ў іх падказкі.

Гэта могуць быць кнігі, фільмы, серыялы, музыка ці карціны. Важна, каб гэта былі сапраўды вартыя ўвагі творы. Каб вы, вярнуўшыся з работы дамоў, ведалі, як з карысцю можна бавіць вечар.

# Таршэр



Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем нашых чытачоў і герояў публікацый. Яны выбіраюць свой спіс і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

## Як шмат цудаў вы можаце ствараць штодня!

**Госць сённяшняга нумара «Таршэра» – віляйчанка Эла Кулеш. Яна псіхолаг, літаратар, майстар народных рамёстваў, вядучая Спеўных сходаў у Вілейцы, мама хлопчыка з імем Верас.**

Эла працуе ў Цэнтры эстэтычнага выхавання, і яна падзялілася з намі спісам сваіх абраных твораў.

### 1. «Хронікі Амбера» Роджэра Жэлязнага

Я – з тых людзей, якія шчасліва раслі і гадаваліся на казках, фантастыцы і фэнтэзі. Тысячы любімых апавяданняў, раманаў, цыклаў. Але, бадай, наймацней захапілі мяне сваімі чарамі «Хронікі Амбера» Роджэра Жэлязнага.

Калі вы сумняваецеся ў сваім стаўленні да фэнтэзі, паспрабуйце пачытаць «Хронікі». Ёсць больш складаныя кнігі і, наадварот, лягчэйшыя. Але тут спляўлося ўсё самае цікавае ў лёгкім, захапляльным аповедзе. Як я кажу, для неафітаў.

### 2. «Пунсовыя ветразі» Аляксандра Грына

Мяне неаднойчы называлі «грынаўскай дзяўчынкай». І – так, яшчэ адзін любімы твор дзяцінства «Пунсовыя ветразі» Аляксандра Грына.

Калі я перачытвала гэты і іншыя яго творы ў дарослым жыцці, дзівілася, наколькі тонкі ён псіхолаг, наколькі дзівосна сплятаў сюжэт з няўлоўных рухаў чалавечай душы, а не з відавочных знешніх дзеяў. Чытаеш і занураешся ў асаблівае залатое ззянне, якое насамрэч ідзе далёка не ад сонечных краін аўтара, а ад сонечных душаў яго герояў.

### 3. «Ты і я» Уладзіміра Караткевіча

Як многія беларусы, я гадавалася на творчасці Уладзіміра Караткевіча. Гэта маё светлае, напоўненае ўзнёслымі пачуццямі юнацтва. Ува многім дзякуючы патрыятычным, лірычным вершам, аповесцям, раманам генія я і па сёння застаюся рамантыкам і ў патрыятызме, і ў адносінах з людзьмі. Выбраць нешта адно няпроста. Але верш «Ты і я» надзвычай блізкі мне сваімі вобразамі, настроем, энергетыкай, пасылам.

*Ты і я: пралеска*
*ў снах бурану,*
*Дрэўца вішні*
*ў ярасным агні,*
*Кропля на спіне*
*Левіяфана,*
*Радуга на крылах*
*навальніц.*

*Пад дзевятым валам*
*ветразь ніцы,*
*Верас, што агнём*
*абняў пярун,*
*Павуцінка ў пекле*
*навальніцы, –*
*Адкажы на вуха*
*ўладару,*

*Як мне здужаць*
*ураган і вецер,*
*Вечны мой, зацяты,*
*страшны бой?*
*Як мне, моцнаму,*
*пражыць на свеце*
*Без цябе, танюткай*
*і слабой?*

### 4. «Ваяр Пэк Тон Су»

Штосьці такое «навальнічна-гераічнае» праяўляецца і ў іншых маіх захапленнях. Здаўна мне падабаюцца ўсходнія адзінаборствы. А апошнія гады захапляюся пераважна карэйскай культурай, гісторыяй, мовай.

Глыбокае ўражанне пакінуў серыял «Ваяр Пэк Тон Су». Ён пра сяброўства, пра вернасць радзіме і ідэалам, пра няпросты выбар духу, пра павагу да Настаўніка. Даволі жорсткі гістарычны фільм, які паказвае няпростае становішча Карэі паміж дзвюма амбітнымі суседкамі – Японіяй і Кітаем. Нічога не нагадвае?..

### 5. Творы Агінскага

Патрыятызм, рамантыка, няпросты выбар і геніяльнасць... Для мяне немагчыма прайсці міма асобы Міхала Клеафаса Агінскага. Шмат год таму я адкрыла для сябе зборнік яго музычных твораў, пераважна паланэзаў, у выкананні яго нашчадка Іва Залускага.

З упэўненасцю магу сказаць, гэта тое, што акрыляе душу, абуджае пачуцці, прыносіць палёгку, адкрывае нейкі ўнутраны рэсурс для новага жыцця. Я не выдзяляю адзін твор. Гэта цэлы альбом як адзін твор.

### 6. «Вельмі прыемна, Бог!»

З безлічы любімых твораў будзе дарэчным згадаць і анімэ. Спачатку падумала назваць штосьць з любімага Хаяа Міядзакі, але ўсё ж зраблю нечаканы ход. Гэта найлюбімейшае анімэ «Вельмі прыемна, Бог!».

Быццам такое незамудронае гледзіва для дзяўчатак, нераўнадушных да містыкі і загадкавых красуноў. Але што мяне чапляе ў ім і ў традыцыйным японскім менталітэце агулам – гэта анімізм, вера ў адухоўленасць усёй прыроды. Ты глядзіш падобныя рэчы і ў табе ярчэй абуджаецца вось гэтае любаванне жыццём, дзіцячае ўспрыманне свету, кожнай яго часцінкі як Цуда. І разуменне, як шмат насамрэч Цудаў ты можаш ствараць сам у штодзённым існаванні.

### 7. Статуя Шывы

Кажучы пра прыгажосць і боскасць, нечакана ўспамінаецца статуя медытуючага бога Шывы ў Рышыкешы, сусветнай сталіцы ёгі блізу Гімалаяў. У індуізме Шыва – касмічная свядомасць, статычны мужчынскі пачатак.

У свой час вось гэты вобраз Шывы вельмі моцна паўплываў і на маю ўласную творчасць, пры гэтым ніяк не звязаную з далёкай усходняй культурай. Я агулам вельмі люблю культавае мастацтва, і прыналежнасць да «сваёй» ці «чужой» рэлігіі для мяне мае другаснае значэнне. Важней – унутраны водгук.

### 8. «Дон Хуан»

Карлас Кастанеда «Дон Хуан».Ураўнаважваю «лёгкі» спіс улюбёнасцяў гэтай не самай лёгкай рэччу. Чытво для тых, хто хоча сур'ёзнай практыкі і практычных цудаў, хто жадае пакаштаваць на смак сапраўдную магію індзейскіх шаманаў.

Хаця насамрэч там прыводзіцца шмат універсальнага і знаёмага для іншых культур, у тым ліку і для нашай. Гэты твор істотна паўплываў на мяне і нярэдка з'яўляецца практычным дапаможнікам у штодзённай працы з сабой. Але – без фанатызму.

### 9. «Eternal» Аканісі Дзін

А цяпер, як кажуць, песня. Тут таксама адразу ў галаву прыходзіць цэлы россып варыянтаў з усіх жанраў, часоў і культур. Песня – народная, аўтарская – значная частка майго жыцця. Але пазнаёмлю вас з малавядомай: «Eternal», японская, аўтар – Аканісі Дзін. Кажуць, што ніколі не трэба ставіць любімую песню на будзільнік. Але не гэткую. Вось ужо стойка трымаецца сем год і не прыелася. Яна – пра вечнае: пра любоў і ўдзячнасць. Да жыцця, да блізкіх, сяброў, любімых. Калісьці я здолела знайсці на яе ноты. Цікава, але яна не мае ніводнага паўтону. Светлая – як і клавішы піяніна, на якіх яе часам найграю.



### 10. «Жанчыны, якія бягуць з ваўкамі»

Твор «Жанчыны, якія бягуць з ваўкамі». Кларыса Пінкала Эстэс, амерыканская паэтэса, філосаф, псіхааналітык. Кніга-даследаванне, кніга-ключ да праўдзівай жаночай прыроды, яе архетыпаў, траўмаў і ўнутраных рэсурсаў. Вельмі варты твор, які калісьці моцна скалануў душу. Чытала яго анлайн, але раздрукоўвала, каб падзяліцца з сябрамі.

У сучасным свеце многія жанчыны сталі згубленымі, многія жывуць не сваё жыццё альбо пражываюць яго часцінкамі, не маючы адказаў на многія пытанні дый нават не ведаючы саміх пытанняў. Аўтарка, на мой погляд, даволі цікава раскрывае тэму праз народныя вобразы і казкі. Калі ў мяне пытаюць парады, што пачытаць для развіцця, я заўжды сярод іншага згадваю гэты твор.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Лішак, узятае звыш меры, нормы.
3. Глухі гук, шамаценне, шорганне ад лёгкага руху, дотыку, сутыкнення.
4. Кароткае выкладанне зместу, сутнасці артыкула, прамовы; кароткая высновa з таго, што сказалі.
5. У архітэктуры – сукупнасць упрыгожанняў.
9. Літаратурны твор або кінафільм, прысвечаны раскрыццю таямніц, звычайна звязаных са злачынствам.
11. Мужчына ў адносінах да сваіх дзяцей.
13. Падабраныя і прыгожа складзеныя ў пучок кветкі.
14. Установа для перасылкі пісем, грошай, лёгкіх грузаў.
15. Род мятлы з мачалы, вяровак, умацаваных у драўляную калодку.
17. Чараўнік, знахар у народаў, рэлігія якіх заснаваная на кульце духаў, на магіі.
18. Пляцоўка з поручнямі, прыбудаваная знадворку да сцяны дома і злучаная дзвярамі з унутраным памяшканнем.
20. Белы клён.
21. Жаночае адзенне, верхняя частка якога, што адпавядае кофце, складае адзінае цэлае з ніжняй часткай, якая адпавядае спадніцы.
22. Невялікая булка з пшанічнай мукі.
23. Маленькая пеўчая птушка атрада вераб'іных, якая вылучаецца прыгожым спевам.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Кіраўнік прадпрыемства, установы.
3. Сагнутая на форме абцаса металічная дужка з зубчастым або гладкім кольцам, якая прымацоўваецца да задняй часткі бота наезніка і служыць для лепшага кіравання канём.
6. Рабочы, майстар, які займаецца коўкай металу.
7. Грошы або каштоўныя паперы, якія ўносяцца ў крэдытную ўстанову (банк, натарыяльную кантору і пад.) для перадачы іх крэдытору або для захавання.
8. Металічны шар для спартыўных практыкаванняў у штурханні.
10. Драўляны хамут для вупражы рабочай буйной рагатай жывёлы.
12. Народны духавы музычны інструмент з трыснягу або дрэва ў выглядзе трубкі з круглымі дзірачкамі.
14. Поўная няўдача.
16. Старажытнае скандынаўскае і ірландскае народнае гераічнае сказанне.
18. Неафіцыйная назва пешаходнай вуліцы ў Маладзечне.
19. Спецыяльна прыстасаванае месца для стаянкі, пагрузкі, разгрузкі і рамонту суднаў.
22. Спрошчаны чарцёж, які перадае сістэму, пабудову, сувязь частак.

## Адказы на крыжаванку з №14

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Кнопка. 2. Відэлец. 4. Воін. 5. Ордэр. 7. Бюджэт. 8. Рэвальвер. 11. Лаўка. 13. Джала. 15. Лён. 17. Варта. 19. Казёл. 21. Русалка. 22. Мядзел. 23. Лактацыя. 25. Лепшы. 26. Офіс.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Вагон. 4. Вуглярод. 6. Дажынкі. 9. Даліна. 10. Даўжнік. 12. Клема. 14. Лаза. 16. Веліч. 18. Рэбус. 20. Дзяльба. 21. Роды. 24. Калапс.

● ГАРАСКОП НА 10-16 КРАСАВІКА

**АВЕН.** У гэты перыяд вам давядзецца супрацоўнічаць у не самых зручных умовах. Магчыма, новы досвед будзе для вас выклікам, але пастарайцеся падысці да справы з цікавасцю. Часам перамены не толькі да лепшага, але і для таго, каб вы ўбачылі ў сабе штосьці прыхаванае.

**ЦЯЛЕЦ.** Калі вы задумваліся пра перамены ў кар'еры, то цяпер самы час гэта зрабіць. Магчыма, спачатку ў вас не складуцца сяброўскія адносіны з новымі калегамі, затое сама праца пойдзе ўгору. Сфакусіруйцеся пакуль на гэтым.

**БЛІЗНЯТЫ.** Будзе адчуванне, што вакол вас віхор падзей. Яны будуць тычыцца вас, але вы не будзеце мець магчымасці многае змяніць. Паспрабуйце адшукаць пазітыў у кожнай з сітуацый, магчыма, гэта дасць вам новую хвалю ўздыму.

**РАК.** Асаблівa важных падзей не чакаецца, але і сумаваць не прыйдзецца. Вы зможаце ацаніць вынікі працы, якую ўжо зрабілі. Высновы могуць быць нечаканымі, але прыемнымі. Дазвольце зоркам дапамагчы вам дасягнуць поспеху.

**ЛЕЎ.** Ад вас спатрэбіцца сур'ёзныя высілкі, каб займацца забеспячэннем свайго поспеху. Ад вас залежыць тое, як пойдуць справы ў бліжэйшы час. Пастарайцеся ўкласціся ў тое, каб ваша справа атрымала новы вiток і на ім закруцілася.

**ДЗЕВА.** У гэты час будзе важна, каб вы адказалі сабе на некалькі важных пытанняў. Пастарайцеся прымаць рашэнні ў цішыні і спакойнай абстаноўцы. Думайце пра светлае і старайцеся быць аб'ектыўнымі.

**ШАЛІ.** У гэты час ад вас спатрэбіцца больш разумовага і фізічнага напружання. Прычым як у прафесіі, так і ў інтымным жыцці. Добрая навіна ў тым, што ў абедзвюх сферах вашы старанні прынясуць самыя станоўчыя вынікі.

**СКАРПІЁН.** Вам трэба самому пастарацца, каб прыўнесці ў штодзённае жыццё больш фарбаў. Пастарайцеся радаваць дарагіх вам людзей, часцей размаўляйце з сябрамі, усміхайцеся! Няхай больш пазітыву прынясуць звычайныя рэчы, якія вы будзеце рабіць з любоўю.

**СТРАЛЕЦ.** У вас з'явіцца адчуванне, нібыта вам хтосьці дапамагае. Магчыма, гэта сапраўды так. Але гэта зусім не змяншае вашы заслугі ў справах. Старайцеся зрабіць усе праекты так, як задумалі, і чакайце падтрымкі. Яна можа прыйсці адтуль, адкуль яе зусім не чакалі.

**КАЗЯРОГ.** У гэты час вашай увагі запатрабуюць фінансавыя пытанні. Пастарайцеся з усёй уважлівасцю паглыбіцца ў справы і сутнасць пытанняў. Не саромейцеся кансультавацца ў дасведчаных знаёмых. Усё гэта прынясе карысць.

**ВАДАЛЕЙ.** Пастарайцеся выспяваць свае ідэі і добра іх абдумваць, перш чым брацца за ўвасабленне. Знаёмце іншых з дапрацаванай задумай. Так больш шанцаў, што яе зразумеюць правільна.

**РЫБЫ.** У вас можа выклікаць здзіўленне нечаканая прыемнасць. Вы будзеце думаць, што ваш апанент мае супрацьлеглую пазіцыю. Але ў працэсе перамоў зразумееце, што на самой справе вы імкнецеся да аднаго, проста пакуль ідзяце рознымі шляхамі.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 5 | | | | | | 3 | |
| 4 | | | | | 5 | | | 8 |
| 2 | | | 3 | 1 | | | | 7 |
| 8 | | | 5 | 7 | | | | 4 |
| | | | 8 | | | 1 | | 9 |
| | | | | 6 | 2 | 7 | 8 | |
| | | | 2 | | 6 | | 7 | |
| | | | 4 | 3 | | | 9 | |
| | | 5 | | | 9 | | | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

● #РГ25

## Уладзімір Пятроўскі, кіроўца:

# «Газета робіць мяне бліжэй да роднага краю»

**28 красавіка «Рэгіянальная газета» адзначае 25-годдзе. Прымаем віншаванні і цёплыя словы ад нашага чытача, жыхара Маладзечна, ураджэнца Будслава, кіроўцы Уладзіміра Пятроўскага:**

– Наша любімая «Рэгіянальная газета»! Віншую цябе з 25-годдзем існавання на прасторах нашага рэгіёна. Мае далёкія паездкі ніколі не абыходзяцца без свежага нумара «РГ»: заўжды бяру з сабой і ў свабодны шафёрскі час з задавальненнем чытаю кожны нумар ад першай старонкі да апошняй. Гэта мяне робіць бліжэй да майго роднага краю і наводзіць на думку, што ты не адзін у гэтым свеце: з табой ёсць часцінка тваёй Радзімы.

Жадаю табе, любімая газета, ніколі не губляць тую шчырасць і праўдзівасць, якімі ты адрозніваешся ад іншых выданняў і за якія я цябе вельмі люблю.



Фота забяспечанае Уладзімірам ПЯТРОЎСКІМ.

Уладзімір Пятроўскі ў рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» падчас узнагароджання за перамогу ў конкурсе «Не губляй ніводнага дня».

***

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**

## Чытайце праз тыдзень:

- Ісландскі дызайнер распрацаваў дызайн лагатыпу для ФК «Астравец». «Рэгіянальная газета» паразмаўляла з Рафнам Гісласанам пра першую супрацу з беларускім футболам.

## 11 красавіка, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 3-4 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -4,4°С у 1986 годзе
Максімальная тэмпература +19,5°С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,8 мм у 1997 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпішыце на «РГ» сябе і бацькоў. І будзьце здаровыя!



**Падпісацца на «РГ» можна:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Ці змянілася нешта ў тым, як вы ходзіце ў крамы?



**Дзмітры Радзько, рознарабочы, Маладзечна:**

– Не, нічога не змянілася. Я не карыстаюся маскамі і пальчаткамі, калі хаджу ў краму.



**Алеся Маліноўская, у дэкрэтным адпачынку, Ашмяны:**

– Маску і пальчаткі не надзяваем, масавых месцаў пазбягаем. Я, як і раней, замаўляю дастаўкі на тыдзень наперад. Муж на аўто ездзіць на працу, кантактуе з аднымі і тымі ж людзьмі. Дачка наведвае садок, іх там цяпер двоепяцёра дзяцей ходзіць.



**Артур Жыгульскі, электрык, Маладзечна:**

– У мяне нічога не змянілася. Маскі і пальчаткі не надзяваю, а ў крамы хаджу амаль кожны дзень.



**Юлія Вазнюк, медык, Валожын:**

– У крамы хаджу па меры неабходнасці. Я працую ў паліклініцы, таму карыстаюся і маскай, і пальчаткамі.



**Юры Байко, часова беспрацоўны, Маладзечна:**

– Грамадскіх месцаў і транспарту пазбягаю. У краму хаджу рэдка, але ў масцы і пальчатках. А дастаўкай не карыстаюся.



**Анастасія Васількова, выкладчык, Маладзечна:**

– На працы ў медыцынскім каледжы масачны рэжым. Па вуліцы хаджу без маскі, трымаю дыстанцыю. У краму, аптэку надзяваю маску, а пасля наведвання апрацоўваю рукі антысептыкам. Але ў краму стала хадзіць значна радзей. Калі нешта трэба, то апраўляю мужа – ён хутчэй з усім спраўляецца.



**Аляксандр Кендыш, галоўны бухгалтар, Маладзечна:**

– Нічога не памянялася. Хаджу ў краму па меры неабходнасці, прыкладна праз дзень. Крама ад майго дома ў некалькіх кроках знаходзіцца. Маскі і пальчаткі не надзяваю.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№15 (1302) 10.04.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РолПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 602. Падпісана ў друк у 9.00 9.04.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.